І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове ТРАВЕНЬ 2012

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну

## Гурт «Romeira»:

«Мы робім нешта ўнікальнае» стар. 4

Чаму Піянэрскі сверык называецца Піянэрскім стар. 6

"ТУТ АБСЛУГОЎВАЮЦЬ і ПА-БЕЛАРУСКУ!" стар. 8





# Даследчыкі: Гістарычная драўляная забудова Гомеля пад пагрозай поўнага знішчэння

***Гомельская моладзевая краязнаўчая грамадская арганізацыя «Талака» 4 мая правяла другую экскурсію з цыкла «Горад, які знікае». У экскурсіі па гістарычным цэнтры горада, дзе многія старыя дамы мясцовыя ўлады плануюць знесці, прынялі ўдзел каля 50 чалавек.***

Як паведаміў БелаПАН старшыня «Талакі» Яўген Меркис, маршрут экскурсіі пралёг па той частцы старога Гомеля, якая вядомая як Хросная Слабада. Гэта адзін са старадаўніх раёнаў горада, які размяшчаўся паміж сучаснымі вуліцамі Пралетарская, Камісарава, Фрунзе і Гагарына. Сваю назву атрымаў з-за маленькага храма, вакол якога ў другой палове XVII стагоддзя пачалі масава сяліцца стараверы з Расіі.

«Гістарычная драўляная забудова Гомеля знаходзіцца цяпер пад пагрозай поўнага знішчэння. Згодна з нядаўна зацверджаным новым генпланам развіцця горада, усю аднапавярховую забудову ў цэнтры, нягледзячы на яе гістарычную, архітэктурную або мастацкую каштоўнасць, плануюць знесці. Намаганні гомельскіх гісторыкаў і актывістаў па стварэнні спецыяльных ахоўных зон або музеяў пад адкрытым небам пакуль застаюцца марнымі», — падкрэсліў Меркис.

Праводзіў экскурсію навуковы супрацоўнік Веткаўскага музея народнай творчасці краязнаўца Андрэй Скідан. Удзельнікі мерапрыемства адзначылі, што шпацыр па Хроснай Слабадзе дапамагла даведацца, як жылі стараверы і што яны дадалі ў жыццё старога Гомеля, азнаёміцца з асаблівасцямі архітэктуры гэтага раёна горада, у тым ліку ўнікальнай старавераскай Іллінскай царквы.

*Алена Германовіч, БелаПАН*




Прыеха Чапаеў з Беларусі і расказвае Пецьку:
- Самае цікавае там - гэта гамяльчане.
- А што яны робяць?
- Зараз пакажу. Станавіся каля сцяны.
Потым бярэ аглаблю і хрась Пецьку па лбе.
Праз гадзіну Пецька ледзь ачухаўся. А яму Чапаеў кажа:
- Дык вось Пецька, а гамяльчане так рукой могуць!

# Італьянскі мастак распіша Гомельскі касцёл

***Вялізная фрэска ўпрыгожыць алтарную частку каталіцкага храма.***

Вядомы італьянскі мастак Фабіа Нонес прыбыў у Гомель, каб агледзець памяшканне мясцовага касцёла, дзе ён плануе напісаць вялікую фрэску. Майстар распіша ўсю алтарную частку храма. Што будзе на карціне, настаяцель пакуль не кажа, пакідаючы для вернікаў невялікі сюрпрыз. Але галоўнай тэмай алтарнай іконы стане, безумоўна, Нараджэнне Найсвяцейшай Дзевы Марыі, расказалі ў гомельскім касцёле.

- Калі Бог блаславіць гэтую справу, то спадзяемся ўсё паспець да нашага храмавага свята, якое адзначаем 8 верасня. А пакуль мастак зняў меркі, абмеркаваў з намі кампазіцыю і будзе распрацоўваць праект, - кажа святар.

Як раней паведамляў сайт гомельскага касцёла, алтарны абраз храма хацелі распісаць айцы-бернардынцы з Літвы, вучні Фабіа Нонеса. Аднак манахі не ўсё ж не ўзяліся за такую маштабную працу і параілі звярнуцца да свайго настаўніка. Магчыма, яны будуць дапамагаць яму распісваць абраз.

Распачаць працу плануецца ў канцы ліпеня - пачатку жніўня гэтага года.

*Павел Міцкевіч, kp.by*

# Мікольскі пераезд. Жыцьцёвая гісторыя 1927 г.

***1927***

Гісторыя банальная. Яна яго кахала. Ён яе – не. Але яна падабалася яму, як дзеўка – прыгожая такая, мажная і пародная гомельская яўрэйка. Наабяцаў, скарыстаў, “паматросіў ды бросіў”. А яна яшчэ і пуза нагуляла. Аборт немагчымы – за гэта ўжо перадугледжвалася крымінальная адказнасьць, а дзеўка была сумленнай і законапаслухмянай камсамолкай. Уцякаць няма куды, яшчэ школу ня скончыла і дакумэнтаў на руках ніякіх. Скардзіцца на мужыка, што яе кінуў, няма сэнсу, бо ён у ГПУ служыць, "за паклёп на сумленнага бальшавіка" пасадзяць. І ёйныя бацькі такога не зразумеюць, бо для іх цяжарная няпоўналетняя дачка па-за шлюбам - проста нешта немагчымае, “агімула фаірыд!” (“гэта так жа неверагодна, каб на нябёсах была ярманка!” – ідыш). Гомель у 1927 годзе быў горадам суадносна невялічкім, многія адзін аднога ведалі, а яўрэі – ня проста многія, а проста ўсе адзін аднога выдатна ведалі хаця бы завочна. Называеш прозьвішча, скажам, Плісецкія, і табе адразу: “А, гэта ў іх за царом крама пішчабумажных прыладаў была!” (за цяперашнім Домам Камуны).

Дый сям’я ў дзеўкі яшчэ тая. Скандальны гарласты тата, які на Першамайскія сьвяты гучней за ўсех сьпяваў “Яўрэйскую пралетарскую” -- “Лейбен зол дэр ховен Сталін, ай-ай-ай!” (“Хай жыве таварыш Сталін, ай-ай-ай!” - ідыш) Маці – сакратар пярвічнай ячэйкі ВКП (б) арцелі “Чырвоны пішчавік”, цяпер – фабрыка “Спартак”, з роду Хаюціных, між іншым (яе сястра Хаюціна -- будучая жонка наркаму НКВД М. Яжова). Брат – чырвоны камандзір. Суседзі – спрэс актывісты, цэлы “чырвоны кагал” (так афіцыйна і называўся, сынонім “камітэта яўрэйскай беднаты”). За пазашлюбнага дзіцёнка дзеўку выгналі бы з хаты і бацькі, і брат. І яна гэта добра разумела.

І вось гэтая дзеўка вышала кінуцца пад цягнік. Ці то “Ганны Карэнінай” начыталася, ці то больш традыцыйнай атруты не знайшла. Пайшла яна на Мікольскі пераезд. Гэта ў Гомелі непадалёк ад Мікольскае царквы такі чыгуначны пераезд быў, таму так і называўся. Дый і цяпер і пераезд, і царква спраўна функцыянуюць. Давайны было самае папулярнае ў Гомлі месца, каб на рэйкі кідацца. Цягнікі ці ня кожныя чвэрць гадзіны тамака хадзілі…




Стаіць дзеўка чвэрць гадзіны, стаіць поўгадзіны, стаіць гадзіну. А цягніка ўсё няма. Дзеўцы халодна, бо восень, а яна лёкка апранутая. Не зьбіралася ж чакаць так доўга…

І тут пайшла нейкая пагалоска – маўляў, літаральна ў кіляметры ад пераезду цягнік з рэяк сыйшоў. Ну, дзейцы цікава, вырашыла паглядзець, заадно і пагрэцца хадою. Карацей, ніякай чыгуначнай аварыі няма. Проста нейкая іншая дзеўка вышэй за Мікольскі пераезд пад той самы цягнік і кінулася. Такое вось супадзеньне...

…Яшчэ добра памятаю часы, калі ў цэнтры Гомеля гучаў натуральны жывы ідыш. П’еш піва ў двары, акно расчыняецца, і – на ўвесь двор: “Саг’а, відзі на Савецкую, там куг’у даюць?” (“Сара, выйдзі на Савецкую, там куру даюць”?) – “Не!” – “А што даюць, фарш па два-дваццаць? Фуна хазэр – гута гор!” (“ад сьвіньні шчэць мець – і тоя някепска!”). У адных з такіх дамкоў па Жаркоўскага і жыла напачатку сямідзесятых гадоў мінулага стагодздзя тая дзеўка, цяпер – паважная старая, ветэранша вайны і працы, бабуля трох ці чатырох унукаў і процьмы праўнукаў. Мая бабуля Марыя Сазонтаўна зь ёй яшчэ "з дарэвалюцыі" сябравала, і калі я зусім малы быў, брала ў госьці.

-- Манечка, -- заўсёды гаварыла гаспадыня, -- я тады як пабачыла тую дзеўку-небараку бяз рук і ног, мне так кепска стала… Я ж на сырое мяса зь дзяцінства глядзець баюся! І гэта, думаю, мяне, прыгажуню-камсамолку, вось так ад жалеза адздзіраць будуць? Пайшла я дахаты, расказала бацькам… Сварыліся на мяне моцна, але ж потым даравалі.

Баба Сіма (так тую дзеўку звалі) потым пабралася шлюбам, скончыла чыгуначны тэхнікум і працавала ў Гомлі інжынерам. І дзе б ві думалі? На Мікольскім пераезьдзе, такі да!

*Уладзіслаў Ахроменка,*
*http://homel-hist.livejournal.com/952.html#cutid1*

# Гурт «Romeira»: «Мы робім нешта ўнікальнае»

***Карэспандэнт kli4nik.info сустрэўся з вакалісткай гомельскага гурта «Romeira» і распытаў яе аб арыенцірах ў творчасці, канцэртах і песнях на беларускай мове.***

Рыхтуючыся да інтэрв'ю, я быў крыху збянтэжаны: інфармацыя пра гурт практычна адсутнічала, за выключэннем невялікай даведкі на старонцы гурта «У кантакце». Адзінае, што я ведаў дакладна, – гэта тое, што «Romeira» (у перакладзе з партугальскай азначае «гранатавае дрэва») выконваюць вельмі рэдкую для Беларусі музыку ў стылях кабо верде і босанова. А таксама, што спявае там чароўная дзяўчына Дар'я Калошына, якая да таго ж выдатна размаўляе на беларускай мове.

Калі я сустрэўся з ёй ў моладзевым цэнтры «Юнацтва» перад рэпетыцыяй гурта, то для пачатку яе злёгку папракнуў ў адсутнасці звестак аб калектыве.

- Мы яшчэ малады гурт, сабраліся новым складам толькі два месяцы таму. Да гэтага зусім іншыя былі людзі, якіх я таксама люблю і паважаю. Але мы былі крышачку на розных хвалях. Са старога складу засталіся толькі я (вакалістка), кларнэціст і перкусіяніст. Астатнія музыкі далучыліся нядаўна. Мы першы канцэрт далі 14 красавіка ў "Тауэры", пакуль не паспелі назбіраць інфармацыі. «Укантакце» ёсць суполка, там пра гурт напісана больш-меньш. Аўдыё-запісаў яшчэ няма, ёсць толькі некалькі відэа-запісаў у інтэрнэце. Пакуль мы займаемся рэпертуарам, працуем над якасцю.

***- Тады, калі ласка, пазнаёмце нас з новымі музыкамі.***

- Зараз у нашым складзе грае выдатнейшы гітарыст Антон "Сальвадор" Мельнічэнка. Ён мае вопыт ігры з рознымі гомельскімі гуртамі, але, на мой погляд, менавіта "Romeira" болей за ўсё падыходзіць яму па атмасферы і накіраванасці. Наш кларнецiст – Вадзім Левін, які ўсіх уражвае на выступах сваім майстэрствам, цікавымі партыямі і запалам! Таксама з намі грае баяніст Міша Зяленін, сапраўдны майстар у сваёй справе, віртуозны музыка. Кантрабасіст – Аляксандр Багамаз, малады падаючы вялікія надзеі музыка. Ну і, канешне, аснова музыкі, якую мы граем – перкусія. На бонгах грае Юлія Лосева, барабаншчыца, якая толькі пачынае асвойваць афра-карыбскую перкусію і ўжо робіць поспехі. Акрамя гэтага, на конгах грае Юра Яжоў. На дадзены момант гэта адзіны вядомы мне перкусіяніст у Гомелі, здольны граць у патрэбных нам накірунках, перкусіяніст вельмі высокага ўзроўню. Зараз ён не ў асноўным складзе, таму што жыве у Буда-Кашалёва і грае пераважна са сваім братам Цімафеем Яжовым (гурт "Мало Места"). Сама я ня толькі спяваю, але і граю на укулеле (гавайская гітара) у большасці песен, ды часам выкарыстоўваем розныя лацінаамерыканскія этнічныя інструменты: шэйкеры, гуіро.




***- Вы зараз адны ў горадзе выконваеце музыку ў стылі босанова?***

- Я не магу на сто адсоткаў сцвярджаць што гэта так, магчыма дзесьці ў рэстаранах і спяваюць босанову, таму што музыка папулярная, але вось такі гурт я больш ня ведаю.

***- А як жа нядаўна спыніўшы існаванне гурт «Miss Silence»?***

- «Miss Silence» гралі ня толькі босанову, але блюз і джаз. Мы ж маем у рэпертуары толькі некалькі песень у стылі босанова, а так граем у асноўным музыку афрыканскіх астравоў Кабо Верде і песні Лацінскай Амерыкі. Адзінае, што нас яднае з «Miss Silence» – гэта Бразілія, ды гэта дзякуючы Аляксандру Мікалае-

# Гурт «Romeira»: «Мы робім нешта ўнікальнае». Працяг

вічу Цыганку. Ен сыграў не апошнюю ролю ў творчасці «Miss Silence», ну а нас увогуле можна назваць ягоным дзецішчам.

***- Вы кажаце, што музыка папулярная. Чаму тады ў Гомелі не з’яўляюцца іншыя гурты, якія граюць босанову?***

- Гэта ўвогуле праблема Беларусі, я лічу, мы крыху адстаем ад усяго свету. Але для нашага гурта наадварот гэта цікава, бо мы робім нешта ўнікальнае для Гомеля і нам гэта падабаецца. Я ня ўпэўнена, што ў Беларусі ёсць яшчэ гурты, якія займаюцца накірункам кабо верде. А мы пакуль кавер бэнд, мы граем каверы на Цэзарыю Эвора і іншых выканаўцаў сусветнай велічыні.

***- Ці плануеце пісаць і выконваць свае песні?***

- Канешне, абавязкова! Але мы ня носьбіты партугальскай мовы. Мы не нарадзіліся дзесьці ў Афрыцы, ці на выспе. Мы спрабуем толькі дакрануцца да іх народнай музыкі. А потым, калі атрымаецца ўвабраць яе ў сябе па максімуму, мы пачнем працаваць над сваімі рэчамі.

***- А на беларускай мове песні будуць?***

- Гэтага ніхто ня ведае, бо творчасць – справа непрадказальная. У любым выпадку, мы ня будзем абмяжоўвацца. Песні могуць з’явіцца на беларускай і рускамоўные. Я таксама ведаю французскую, ангельскую. Я па спецыяльнасці – настаўніца ангельскай мовы, працую ў школе. Мне будзе цікава паспрабаваць сачыніць нешта і на гэтых мовах. Але, бязумоўна, хацелася б і беларускую. Асабліва, ведаеце, накірунак босанова па-беларуску гучаў бы цікава. Я ведаю, што бразільцам падабаецца беларуская мова.

***- Запісваць іх гурт плануе?***

- Як толькі даробім увесь запланаваны на дадзены момант рэпертуар. Пакуль рэпетуем для канцэртаў, рыхтуемся ўвесь час. Як толькі з’явіцца магчымасць запісацца, мы гэта зробім.

***- На каго вы будзеце арыентавацца падчас запісу песень?***

- Канешне, арыенціраваць, у нейкім сэнсе, з’яўляюцца арыгінальныя выканаўцы: Цэзарыя Эвора, Антоніо Карлас Жобім, розныя джазавыя выканаўцы. Мы праслухоўваем увесь час музыку, спрабуем зразумець, якім чынам у гэтых музыкаў усё настолькі шыкоўна гучыць. Наколькі ў нас гэта атрымаецца – я ня ведаю, прыходзьце на нашыя канцэрты паслухаць!

***- Мне здаецца з гэтым пакуль ёсць праблемы, паколькі выступаеце вы не занадта часта.***

- Я спадзяюся, што ўжо хутка мы пачнем часцей выступаць, Галоўнае – мець свой рэпертуар на паўтары-дзве гадзіны. Канешне, трэба каб гэтыя канцэрты рабіліся якасна. І аплочваліся таксама.

У красавіку ўсе жадаючыя маглі бачыць гурт на «Гранатавым» канцэрце ў «Тауэры» і на юбілеі гурта «Тёплые Вещи». А тыя, хто прапусціў, могуць паглядзець фота і відэа з гэтых выступаў на афіцыйнай старонцы гурта «У кантакце».

# На абнаўленне кінатэатра ў Рэчыцы пайшло 2 млрд. рублёў

***Урачыстае адкрыццё абноўленай глядзельнай залы ў кінатэатры Беларусь» у Рэчыцы адбудзецца 3 мая.***

Як паведамілі ў прэс-службе Гомельскага аблвыканкама, у межах дзяржаўнай праграмы «Культура Беларусі» з мясцовага бюджэту былі выдзелены сродкі для капітальнага рамонту глядзельнай залы. Рамонтныя работы праводзіліся больш за паўгода. Цяпер у кінатэатры сцены аздоблены сучаснымі акустычнымі матэрыяламі, пераабсталявана падлога, закуплены новыя крэслы, у тым ліку «крэслы для закаханых». Зала абсталявана сучаснай акустычнай сістэмай Dolby Digital Surround. Агульны кошт работ склаў прыкладна 2 млрд. рублёў.




Для прэм'ернага паказу ў абноўленай зале абраны фантастычны фільм «Марскі бой». Аднымі з першых гледачоў стануць старшыня Рэчыцкага райвыканкама Пётр Шостак і генеральны дырэктар прадпрыемства «Гомелькінавідэапракат» Аляксандр Лаўрыненка.

Кінатэатр быў адкрыты ў 1960 годзе. У 2007 годзе ў перыяд правядзення ў горадзе «Дажынак» быў праведзены капітальны рамонт хола і фасада будынка.

*БелаПАН*

# Чаму Піянэрскі сквэрык называецца Піянэрскім

***Асабіста я датычна Піянэрскага сквэрыка магу ўзгадаць штотыднёвыя тусоўкі фідошнікаў (яшчэ чула іхні саманазоў - паінтоўка), якія па меры зьнікненьня фідо перарасьлі проста ў штовечаровыя тусы "нефераў", якіх пэрыядычна ганялі "гопнікі". Годзе ў 1999-2001 гэтыя стыхійна ўзьніклыя супольнасьці гэтаксама стыхійна зьніклі. Хто там цяпер зьбіраецца, я ня ведаю. Эма-кіды ўжо, здаецца, таксама ў мінулым. Да таго ж, усе цяпер прызначаюць сустрэчы "на фантане". Але ўсё адно ў добрае надвор'е ўвечары цяжка знайсьці вольную лавачку: сквэрык мы ўсе любім. Праўда, мала хто ведае, чаму ён менавіта Піянэрскі; а афіцыйная назва "імя Грамыкі" не прыжылася.***

На месцы Піянэрскага сквэрыка на мяжы XVIII-XIX стст. яшчэ існавалі праваслаўныя могілкі, па якіх, дарэчы, і можна было вызначыць тагачасную гарадзкую мяжу. Да могілак з паўночнага боку падыходзіў лісьцяны лес. На пачатку XX ст. тут быў гарадзкі сад, пераважна дзіцячы. Сюды ж прыходзілі адпачыць ў летнія вечары, а таксама па выходных днях гомельскія рабочыя, саматужнікі, чыгуначнікі (парк Паскевічаў ня быў месцам масавых прагулак). Людзі шпацыравалі па дагледжаных сьцежках, пракладзеных між старажытнымі ліпамі, клёнамі і іншымі дрэвамі, якія засталіся яшчэ ад прыроднага леса. Людзей забаўлялі духавы аркестр, розныя атракцыёны і лятарэі.

Кіраўніцтва аддзяленьня Лібава-Роменскай чыгункі парупілася аб ўсталяваньні арыгінальнай мэталёвай агароджы вакол гарадзкога сада. А ў 30-я гады XX ст. гарадзкі сад быў перададзены піянэрскай арганізацыі Гомеля. Старыя насельнікі Гомеля прыгадваюць дзьве гіпсавыя фігуры - хлопчыка з горнам і дзяўчынкі, якія атачалі ўваход у сад.

Бабуля мая, напрыклад, памятае гіпсавых піянэраў ("Колькі тваёй маме гадоў? Пяцьдзясят два? Вось і я памятаю Гомель пяцьдзясят два гады, як тут жыву"), але калі скульптуры зьніклі, узгадаць ня можа. Ну што ж, ня дзіўна, гіпс - не мармур, матэрыял нетрывалы. Гэтаксама хутка ніхто й не ўзгадае драўляныя "малыя формы", якія рэгулярна там ставяць, а потым прыбіраюць: выразаныя з дрэва, яны чарнеюць і гніюць, намочаныя дажджамі. Бярыце фотаапараты, фагаграфуйце.




Затое прыгожую каваную чыгунную агароджу добра памятае і мая мама (наўрад ці гэта тая самая старажытная агароджа; як яна магла б захавацца ў часе вайны?), і бабуля. Паводле яе ўспамінаў, "агароджу прыбралі зусім-зусім нядаўна". Мама ўдакладняе: "Калі ты нарадзілася". Ну правільна, для бабулі гадоў трыццаць таму - гэта "зусім-зусім нядаўна".

У шасьцідзясятых гадах у сквэрыку дзейнічаў пракат дзіцячых ровараў і машынак; зь цягам часу, як мы бачым, прынцыпова нічога не мяняецца, хіба мадэлі машынак.

У 1989 годзе ў сквэры паставілі бюст нашаму славутаму земляку Андрэю Грамыку ў гонар угодкаў нараджэньня, абсадзілі яго елкамі. Елкі сьсеклі, здаецца, летась, а замест іх пасадзілі ці то туі, ці то пірамідальныя ядлоўцы. Адзінае, што цешыць: ядлоўцы хутка растуць, і на іх не пакваляцца несьвядомыя спадкаемцы паганцаў пад Новы год. (Варта толькі зірнуць на скалечаныя елкі насупраць, пад вокнамі раддома).

Пра Піянэрскі сквэрык можна пачытаць у кнізе А.Ф. Рагалёва "От Гомеюка до Гомеля", а таксама ў "Гомельскай праўдзе", № 65 за 4 красавіка 1991 года.

Зноўку заклікаю: фатаграфуйце Гомель! У гуглі выпадае адна-адзіная аматарская выява, што па запыце "сквер імя Грамыкі", што па "Піянэрскі сквэрык". Гомель варты большай пашаны і любові з нашага боку.

*http://magdalena-jo-jo.livejournal.com/147293.html?mode=reply&style=mine*

Арабскі шэйх прыходзіць дадому і звяртаецца да гарэма:
- Сыходжу я ад вас!
- Чаму?!!
- Я пакахаў іншы гарэм! То бок Фантан на Савецкай.

**ГумНо СПАРТЫЎНАЕ**

# БАТЭ і «Гомель» перамаглі, «Шахцёр» аступіўся

***Прайшлі матчы 8-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.***

Прайшлі матчы 8-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.

БАТЭ выйграў у Жодзіне ў «Тарпеда» 2:0, «Гомель» дома перамог «Белшыну» 1:0, а «Шахцёр» на сваім полі згуляў унічыю з «Нёманам» 1:1.

«Нафтан» — «Брэст» — 1:0, «Славія» — «Мінск» — 1:0.

БАТЭ — 18 (7 гульняў), Гомель — 17 (7), «Шахцёр» — 13 (8), Дынама Мінск — 12 (7), Мінск — 10 (8), Нафтан — 8 (7), Белшына — 8 (8), Брэст, Славія, Нёман — 7, Тарпеда — 4.

Матчы 9-га тура пройдуць 7 мая. У Мінску, напрыклад, згуляюць «Дынама» і «Шахцёр».

*nn.by*







А можа

так і трэба?




# Школьніца кінулася ратаваць маці і сама загінула

***Трагедыя здарылася ў Петрыкаўскім раёне.***

Жудасная трагедыя адбылася 1 мая ў Петрыкаве (Гомельская вобласць). Ратавальнікам паведамілі: у склепе знойдзены труп жанчыны і яе роднай дачкі. Папярэдняя прычына смерці -- паражэнне электрычным токам. Аказалася, што 36-гадовая мясцовая жыхарка, якая працуе лабаранткай у бальніцы, вырашыла спусціцца па бульбу.

- Выходзячы назад, яна зачапілася рукой за самаробную награвальную прыладу з аголенымі правадамі. У выніку паражэння электрычным токам пачала крычаць, -- распавёў «КП» прэс-сакратар Гомельскага абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях Руслан Габрылёў.

Калі крыкі ачула яе старэйшая дачка - 16-гадовая школьніца, то дзяўчынка кінулася на дапамогу. Але яна таксама загінула.

А праз некалькі хвілін на месца трагедыі прыбегла малодшая дачка лабаранткі -- 9-гадовая дзяўчынка. Яна хацела спачатку дапамагчы, але потым спалохалася і пабегла клікаць на дапамогу суседзяў.

Жанчына выхоўвала дзяўчынак адна, і пасля трагедыі бабуля і дзядуля забралі самую маленькую дзяўчынку. Цяпер яны будуць гадаваць малую.

*http://nn.by*

# "ТУТ АБСЛУГОЎВАЮЦЬ І ПА-БЕЛАРУСКУ!"

***Грамадзянская ініцыятыва “Справаводства па-беалрусу!” распачала новую кампанію па папулярызацыі беларускай мовы ў галіне абслугоўвання і рэкламы – “Тут абслугоўваюць і па-беларуску!”. Была распрацаваная спецыяльная налепка, што вытрымоўвае і неспрыяльнае надвор’е, якую жадаючыя могуць наляпіць на сваю краму, шапік ці на дзверы працоўнага месца.***

“Гэту ідэю падказаў мне беларус, прыхільнік “Справаводства па-беларуску!” з Канады, што пражывае ў Квэбэку. Гэта франкамоўная правінцыя, але ўсё ж там сітуацыя падобна да беларускай – па змоўчванні выкарыстоўваецца англійская мова. Для таго, каб тыя, каму карыстацца французкай зручней адчувалі сябе больш упэўнена, на установак абслугоўвання таксама налепліваюць адпаведныя налепкі – “Тут абслугоўваюць і па-французку”. У нас тая ж самая мэта – дапамагчы людзям – і пакупнікам і прадаўцам пераадолець моўны бар’ер, каб беларускамоўныя без стрэсу маглі ў побытавых справах выкарыстоўваць беларускую мову. Наша мэта не заляпіць усё гэтымі налепкамі, бо гэта дыскрыдэтуе саму ідэю, а ў кожным выпадку дамаўляцца з уладальнікам аб магчымасці размяшчэння налепкі. Такім чынам можна будзе пазбегнуць нязручнасцей і адваротнай рэакцыі, а мы будзем упэўнены, што дакладна ў гэтым месцы па-беларуску беларуса абслужыць здолеюць”, - распавёў аўтар ідэі ініцыятывы “Справаводства па-беларуску!” Ігар Случак.

Тыя, хто хоча далучыцца да кампаніі “Тут абслугоўваюць і па-беларуску!” у іншых гарадах можа дасылаць замову на налепкі ў прыватныя паведамленні карыстача http://vk.com/belaruski_spravavod . Так жа можна і спампаваць макет налепкі.

Гарамадзянская ініцыятыва “Справаводства па-беларуску!”, сябра Асамблеі НДА (Літва) займаецца лабіраванннем змен у заканадаўстве, накіраваных на падвышэнне статуса і заканадаўчай абароны беларускай мовы. У 2012 годзе прыярытэтнымі для кампаніі з’яўляюцца накірункі забеспячэнне беларускай мовы ў сферы рэкламы, камунікацыі, культуры і адпачынку.

*Прэс-рэліз грмадзянскай ініцыятывы "Справаводства па-беларуску!"*

Справаводства
ў ! §
па-беларуску!
ТУТ АБСЛУГОЎВАЮЦЬ І
ПА-БЕЛАРУСКУ!
http://vk.com/spravavodstva_pa_belarusku

Гамяльчук Рабіновіч працаваў на дзядзю і аднойчы вырашыў пачаць працаваць на сябе. Дзядзя даведаўся і цяпер Рабіновіч працуе на дзяржаву - шые рукавічкі.



Асамблея
няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў

***Гэты нумар выйшаў пры падтрымцы***

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
“Гомельскія Навінкі травень 2012”
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246050, г. Гомель, вул. Мазаева, 17,
рэдакцыя “Гомельскія Навінкі 2012”

Надрукавана на
Папяровай фабрыцы
“ГумНо”, г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.




Мы ў сацыяльных сетках:
***vkontakte.ru:*** http://vk.com/gumno2007
***facebook.com:*** http://www.facebook.com/profile.php?id=100003262396346
***Вольга Пыхава:*** http://vk.com/volha_pyhava
***Аляксей Венецыянаў:*** http://vk.com/id167202367

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA